ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 9 (2463) 29 лютага 1996 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

ПОГЛЯД З ДЫРЭКТАРСКАГА КРЭСЛА

## ТВОРЧАСЦЬ КАМПАЗІТАРА І ПАКУТЫ АДМІНІСТРАТАРА



**На пачатку года ў Беларускім оперным тэатры адбылася прэм'ера оперы Сяргея Картэса "Візіт дамы", якая прайшла з вялікім поспехам. Сёння госць нашай рэдакцыі дырэктар тэатра, кампазітар Сяргей КАРТЭС, які да таго ж з'яўляецца і старшынёй праўлення таварыства "Радзіма".**

*-- Сяргей Альбертавіч, вамі напісаны тры оперы і балет, музыка больш чым да 100 драматычных спектакляў, кіна- і тэлефільмаў, сімфанічныя і камерныя творы. А як усё пачыналася, калі?*

-- Я нара[illegible]я ў Лацінскай Амерыцы. Сла[illegible]нскі камітэт у Аргенціне ўзначальваў мой дзед Павел Шастакоўскі. Пасля другой сусветнай вайны па ўсім вялікім Буэнас-Айрэсе пачалі ўзнікаць розныя клубы, аб'ядноўваючы савецкіх грамадзян пад крылом савецкага ко[illegible]ьства і пасольства. Самымі ма[illegible]ымі былі клубы імя Горкага і імя Бялінскага. Мы з братам і сястрой працавалі ў гэтых клубах. Я кіраваў дзіцячым хорам, быў акампаніятарам. І так было да 1955 года, да першай вялікай хвалі вяртання на радзіму, пасля чаго гэтыя клубы фактычна і прыйшлі ў занапад. У гэтым я пераканаўся, не так даўно пабываўшы ў Аргенціне.

Мне было трынаццаць гадоў тады, калі я ў Аргенціне пачаў займацца музыкай і як піяніст, і як кампазітар. Я браў прыватныя ўрокі, сам выкладаў у школе малышам. Маім настаўнікам па кампазіцыі і па тэорыі музыкі быў аргенцінскі кампазітар Якаў Фішар, выхадзец з Адэсы, выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі.

Але, канешне, кампазітар музыкантам я стаў ужо тут, у Мінску, скончыўшы ў 1962 годзе Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працаваць мне заўсёды даводзілася шмат, але я лічу, што маё жыццё, асабліва творчае, склалася ўдала.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

### ЛІСТ ЗА АКІЯН

*Унучцы Лікі Падлузскай.*

Прасторы неба засланіў туман.
Юнацтва адплыло ў другія леты.
І гэты ліст табе за акіян
Я шлю на супрацьлеглы бок планеты.
Расстанне хай не раздзяляе нас, --
І за мяжой жыві, працуй старанна!
У свой малады, у непаўторны час
Яшчэ ты вернешся з-за акіяна.
Ты не адчуеш над сабой імжы,
Як лайнер праплыве над Белавежай.
З далёкай далі, з-за чужой мяжы
Ты вернешся ў свой беларускі снежань.
Цябе штодзённа ўсёй сваёй сям'ёй
Мы, як вясною ластаўку, чакаем.
Не разлучыць нас з роднаю зямлёй
Ні снежнем, ні кастрычнікам, ні маем.
Вунь маладзік у рог свой затрубіў, --
Твайму ён грае шчасцю маладому.
Які б там рай, дзе новы край, ні быў --
Лепш за ўсяго -- зваротны шлях дадому.
Няхай зямля, дзе мора ў бераг б'е,
Жыве сваімі марамі, надзеяй.
А тут жа сцежкі першыя твае
Сцюдзёнай не замецены завеяй.
Жывеш ты сёння з мужам маладым,
У якога тая ж дальняя дарога.
Будзь неразлучнай і шчаслівай з ім,
Каб душы не азмрочвала трывога.
Пакуль яжа хмары злыя не сплылі,
Не занялося новае світанне, --
Не забывайце роднае зямлі,
Дзе першае прыйшло да вас каханне!

*5 снежня 1995 г.*

ПЕРАСЯЛЕНЦЫ: ЧАС І ЛЁС

## БЕЛАСТОК — ВЁСКА СІБІРСКАЯ

**Пра масавыя рэпрэсіі 20--50-х гадоў напісана нямала. Асаблівая ўвага да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі тлумачыцца перш за ўсё імкненнем выкрыць таталітарызм у мінулым і сучаснасці, не дапусціць яго паўтарэння.**

**Па волі лёсу на працягу некалькіх гадоў мне давялося ў якасці члена савета Томскага гісторыка-асветніцкага таварыства "Мемарыял" прымаць удзел у аднаўленні справядлівасці ў адносінах да нашых землякоў, рэпрэсіраваных на тэрыторыі Заходняй Сібіры ў 20--50-я гады. Неаднаразова ў складзе экспедыцый даводзілася бываць у Нарыме, Беластоку, Калпашаве. За гэтыя гады, акрамя вывучэння афіцыйных дакументальных крыніц, давялося запісваць успаміны відавочцаў, хто застаўся ў жывых, весці з імі перапіску, часта ездзіць, сустракацца з нашымі землякамі, якія ў свой час перасяліліся ў далёкую Сібір.**

**Так і ўзнікла задума напісаць некалькі кароткіх нарысаў пра жыццё беларускай вёскі Беласток, якая знаходзіцца на поўначы цяперашняй Томскай вобласці. Да крыўднага мала ведаем мы пра многіх з нашых землякоў, якія апынуліся за некалькі тысяч кіламетраў ад сваёй гістарычнай Радзімы. Розныя гэта людзі, не падобныя іх лёсы. Але многіх з іх спасцігла трагічная доля. Дык успомнім жа пра іх, хто ўжо ніколі не вернецца на зямлю сваіх продкаў!..**

Для многіх, а для беларусаў тым больш, слова "Сібір" амаль заўсёды стаяла побач са словамі "катарга", "ссылка", "дэпартацыя"... І для гэтага былі ўсе падставы, таму што з усіх дарог, што вялі ў Сібір, для іх дарога катаржнікаў, ссыльных, дэпартаваных была самай пратаптанай на працягу некалькіх стагоддзяў пры ўсіх урадах і рэжымах. Але ў той жа час былі і тыя, хто ехаў у гэтыя суровыя мясціны добраахвотна ў пошуках свайго асабістага шчасця і лепшай долі.

Канец XIX стагоддзя характарызаваўся ў Расіі імклівым эканамічным развіццём сібірскага рэгіёна, яго ўзмоцненай каланізацыяй. Будаўніцтва Вялікай транссібірскай чыгуначнай магістралі запатрабавала вялікай колькасці рабочых рук. У Сібір накіраваліся патокі добраахвотных перасяленцаў, у тым ліку і з Беларусі.

Другой катэгорыяй добраахвотных перасяленцаў-беларусаў з'яўлялася сялянства. Пачынаючы з заканчэння будаўніцтва сібірскай чыгункі і аж да 1914 года яно складала асноўную частку сярод перасяленцаў. Перасяленне іх ішло, галоўным чынам, з малазямельных заходніх губерняў Расійскай дзяржавы: Гродзенскай, Віленскай, Віцебскай, Сядлецкай, Курляндскай. Дакладную лічбу перасяленцаў-беларусаў, якія вырашылі звязаць свой далейшы лёс з хлебаробствам у Томскай губерні, устанавіць было немагчыма, таму што тады ўлік насельніцтва вёўся не па нацыянальнай прыкмеце, а па веравызнанню.

Беларусамі-перасяленцамі ў Томскім павеце былі заснаваны такія чыста беларускія пасёлкі, як Андрэеўка і Ламавіцкі, Петрапаўлаўка і Полазава. У 1899 годзе на тэрыторыі новаўтворанай Нова-Аляксандраўскай воласці з'явіўся таксама беларускі пасёлак, які праз некалькі гадоў атрымаў назву Беласток.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Майстрыха з Вілейскага раёна Таццяна ГАНЧАРЫК са сваімі вырабамі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА*

## НАФТАВЫЯ МАГЧЫМАСЦІ НАВАПОЛАЦКА

Неабходнасцю вырашэння праблем далейшага развіцця нафтаперапрацоўчай галіны краіны выклікана паездка Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на Віцебшчыну. 22 лютага свой візіт ён пачаў з наведвання наваполацкага прадпрыемства па транспарціроўцы нафты "Дружба". Затым кіраўнік дзяржавы пабываў у вытворчым аб'яднанні "Нафтан". У той жа дзень Аляксандр Лукашэнка правёў нараду з кіраўнікамі і спецыялістамі галіны па праблемах пастаўкі і перапрацоўкі нафтавай сыравіны.

У час сустрэчы абмяркоўвалася магчымасць рэканструкцыі і мадэрнізацыі існуючых магутнасцей у Наваполацку. Паводле разлікаў спецыялістаў, будаўніцтва комплексу па глыбокай перапрацоўцы нафты дазволіць рэзка павысіць якасць прадукцыі, зрабіць яе канкурэнтаздольнай на сусветным рынку. Як адзначалася, будаўніцтва комплексу ацэньваецца спецыялістамі ў 400--450 мільёнаў амерыканскіх долараў, аднак неабходных інвестыцый да гэтага часу "Нафтан" не атрымаў. Сродкі для будаўніцтва плануецца атрымаць за кошт прыбытку ад пастаўкі ў рэспубліку і перапрацоўкі ў аб'яднанні каля 7 мільёнаў тон нафты ў год, а таксама за кошт прыцягнення замежных крэдытаў.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## ВАКОЛ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі зрабіў заяву для журналістаў на прэс-канферэнцыі 19 лютага з нагоды выказвання свайго намесніка Юрыя Малумава, намесніка кіраўніка адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандра Абрамовіча і Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб магчымасці скасавання Канстытуцыйнага суда: "Я такой ідэі нідзе сам не выказваў і запэўніваю вас, што такая ідэя ў мяне не блукае ў галаве".

Выказаны ў інтэрв'ю рэспубліканскай газеце "Звязда" Юрыем Малумавым намер дабівацца скасавання Канстытуцыйнага суда С.Шарэцкі пракаменціраваў наступным чынам: "... Можа быць, карэспандэнты шта не зразумелі, ці то сам Малумаў не разумее значнасці гэтага органа -- вядома ж, я стаўлюся адмоўна да ліквідацыі Канстытуцыйнага суда". Спікер лічыць, што "нейкі орган, які кантралюе выкананне Канстытуцыі ўсімі галінамі ўлады, павінен быць".

*У ПАВІЛЬЁНЕ "МІНСКЭКСПА"*




Звыш сарака фірм Беларусі, Германіі, Украіны, Славакіі, Літвы і Латвіі прадставілі сваю прадукцыю на міжнароднай выставе "Сродкі аўтаматызацыі" ў Мінску. Разнастайныя вымяральныя прыборы, усялякія датчыкі, без якіх немагчыма сучасная вытворчасць, прыборы кантролю і многае іншае прапанавалі эксплуатацыйнікам і праекціроўшчыкам вядучыя фірмы блізкага і далёкага замежжа. Шматлікія спецыялісты прыбылі на выставу з многіх рэгіёнаў СНД і краін Балтыі і заключылі дагаворы на пастаўку выбранай прадукцыі.

**НА ЗДЫМКУ:** каля выставачнага стэнда фірмы Белэнергатэхналогія.

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ЗНОЎ -- ГАНАРОВЫЯ СЦЯГІ

Для заахвочвання за выдатныя дасягненні ў галіне дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, ва ўмацаванні правапарадку і абараназдольнасці рэспублікі ўказам Прэзідэнта Беларусі заснаваны ганаровыя дзяржаўныя сцягі Рэспублікі Беларусь.

У Палажэнні аб ганаровых дзяржаўных сцягах Рэспублікі Беларусь гаворыцца, што яны заснаваны як сімвал працоўнай і воінскай доблесці і з'яўляюцца заахвочваннем за асобыя дасягненні ў галіне дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, ва ўмацаванні правапарадку і абараназдольнасці Рэспублікі Беларусь.

Ганаровыя дзяржаўныя сцягі Рэспублікі Беларусь будуць прысуджацца прадпрыемствам, арганізацыям, установам, іншым юрыдычным асобам, а таксама адміністрацыйна-тэрытарыяльным адзінкам, воінскім часцям і падраздзяленням.

*НОВЫЯ АВІЯЛІНІІ*




З пачатку гэтага года аэрапорт у Брэсце прымае ў сябе любыя самалёты вагой да 200 тон. Брэстаўчане ўзнаўляюць страчаныя сувязі з паветранымі портамі былога Савецкага Саюза, лятаюць у Італію і Германію. А нядаўна мясцовыя авіятары заявілі аб гатоўнасці прымаць і вядомыя ўсяму свету самалёты "Боінг-737".

**НА ЗДЫМКУ:** загружаецца самалёт "ТУ-154", які выконвае камерцыйны рэйс у Мінеральныя Воды.

*"Асабіста я лічу і цяпер: вялікі дзякуй і тым, хто стварыў БНР, і тым, хто дабіўся БССР. Я і цяпер яшчэ пад уражаннем, колькі прыйшлося выцерпець таму ж З. Жылуновічу (Цішку Гартнаму) з аднадумцамі, на што пайсці, каб літаральна вырваць у Леніна, Свярдлова, Сталіна і іншых тую ж БССР, якую, як і БНР, бачылі на ражне Мяснікоў, Кнорын і Ландар, якія сілай узурпіравалі права прадстаўляць наш народ як люд Заходняй вобласці. БССР таксама была дзяржавай на паперы, але ўсё ж у гэтай абрэвіятуры былі літары "БР" -- Беларуская Рэспубліка. Ды і пазней побач велізарнымі стратамі, ахвярамі ў гад сталінізму ды вайны былі і немалыя поспехі ва ўсім. Веру: прыйдзе час, і ў сталіцы Беларусі будзе прыстойны помнік З. Жылуновічу, каб тут узвышаўся ён, а не Мяснікоў з хаўруснікамі".*

*(З інтэрв'ю пісьменніка Генрыха ДАЛІДОВІЧА карэспандэнту газеты "Звязда")*

*КАНФРАНТАЦЫЯ*

## БЕЗ ЗГОДЫ ПАРЛАМЕНТА

"Падпісваючы ўказ аб назначэнні старшынёй праўлення Нацыянальнага банка рэспублікі Тамару Віннікаву, я зыходзіў, перш за ўсё, з таго, што яна з'яўляецца кваліфікаваным спецыялістам, добра ведае існуючыя праблемы ў банкаўскай справе і, галоўнае, бачыць шляхі іх вырашэння. Да таго ж валодае добрымі арганізатарскімі здольнасцямі, даказаўшы гэта на практыцы". Такімі словамі 19 лютага пачаў сваё выступленне Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка перад кіруючымі работнікамі галоўнай фінансавай установы рэспублікі, прадстаўляючы ім новага старшыню праўлення. Але такі крок Прэзідэнта выклікаў адэкватную рэакцыю Вярхоўнага Савета.

"Схема такога прызначэння не стасуецца з Канстытуцыяй і Законам "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь", згодна з якімі Прэзідэнт мае права толькі ўносіць кандыдатуры на разгляд парламента. А прызначаць -- гэта выключная прэрагатыва толькі Вярхоўнага Савета", -- заявіў Віктар Ганчар.

Парламент прыняў адпаведную пастанову, па якой да зацвярджэння Вярхоўным Саветам па прадстаўленню Прэзідэнта старшыні праўлення Нацыянальнага банка гэтыя абавязкі па-ранейшаму павінен выконваць намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка М. Кузьміч.

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## ЕПІСКАП ГРОДЗЕНСКІ І ВАЎКАВЫСКІ

У Гродне ў Свята-Пакроўскім кафедральным саборы 15 лютага, у дзень Грамніц, сваё першае богаслужэнне правёў епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі ўладыка Арцемій (Кішчанка).

Прадставіў яго духавенству Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт. Новы епіскап родам з Мінска, па нацыянальнасці -- беларус. Скончыў ён духоўную семінарыю і ў даны момант працягвае вучобу ў духоўнай акадэміі. Да прызначэння ўладыка Арцемій служыў протаіерэем у Мінску.

*ЗАЯВЫ*

## У АБАРОНУ МОВЫ

У Віцебску прайшоў сход грамадскасці горада, дзе людзі выказалі сваю заклапочанасць становішчам беларускай мовы, яе ўціскам, што затармазіла працэс адраджэння беларускасці ў сферы ўсяго грамадскага жыцця, прынялі Заяву. Па сутнасці, як адзначаецца ў Заяве віцяблян у абарону беларускай мовы, зноў пачалася русіфікацыя, накіраваная на паступовую асіміляцыю, замаскіраваную разважаннямі, цяпер ужо аб славянскім адзінстве.

У Віцебску, пішацца ў Заяве, у мінулым навучальным годзе па-беларуску навучаліся ў школах 3 300 вучняў, у тым ліку 688 амаль у сарака першых класах. Сёлета іх ужо, адпаведна, каля 200 і толькі пяць першых класаў. Адзіная гімназія са статусам беларускамоўнай пераходзіць на рускую мову. Закрываюцца беларускамоўныя групы і дзіцячых сады, а колькасць дзяцей, што выхоўваюцца па-беларуску, зменшылася ў параўнанні з леташнім утрая. Расфарміроўваюць беларускамоўныя класы, якія па некалькі гадоў працавалі на беларускай мове, і не таму, што бацькі не жадаюць вучыць там сваіх дзяцей, а таму, што так ім "раяць".

*ШКОЛЬНЫЯ СПРАВЫ*





Многа цікавых спраў на рахунку калектыву віцебскай сярэдняй школы N 32. Многія з яе выпускнікоў працуюць тут і перадаюць свае веды навучэнцам. Ёсць у школе свае традыцыі. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца, напрыклад, танцавальны калектыў "Вясёлка", клуб інтэрнацыянальнай дружбы, атрад міласэрнасці, музей баявой славы 39-й арміі і іншыя.

**НА ЗДЫМКАХ:** віцебская сярэдняя школа N 32; вось такія карціны робяць дзеці ў групе падоўжанага дня.

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Шаноўны спадар рэдактар Вацлаў Мацкевіч!

У "Голасе Радзімы" N 5/2459/ ад 1 лютага 1996 года, у рубрыцы "Весткі адусюль", паявілася памылковая, на мой погляд, інфармацыя з Палесся. Другі сказ яе гучыць проста сенсацыйна: "Лінгвісты, этнографы, сацыёлагі, гісторыкі, краязнаўцы аб'ядналіся з мэтай паспрыяць захаванню самабытнай польскай культуры..."

Канешне, усе гэтыя вучоныя згуртаваліся для ратавання палескай, не польскай, культуры. Дальбог не паверу, каб нават самы заядлы паланафіл сярод беларускіх вучоных задумаў раптам паланізаваць Палессе..."

Карыстаючыся нагодай, шлю Вам, спадар рэдактар, найшчырэйшыя словы ўдзячнасці за "Голас Радзімы", якім я, польскі перакладчык беларускай літаратуры, карыстаюся як самым першым і самым надзейным дапаможнікам у працы.

Жадаю вам, каб "Голас..." гучаў безупынна і ў наступным тысячагоддзі, на радасць беларусам і прыхільнікам Беларусі на свеце.

З павагаю Чэслаў СЭНЮХ.

Варшава.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Просім прабачэння ў чытачоў за сапраўды прыкрую памылку, вядома ж, гаворка не пра польскую, а пра палескую культуру. Глыбока ўдзячны паважанаму Чэславу СЭНЮХУ за шчырую прыхільнасць да "Голасу Радзімы" і высокую ацэнку нашай працы.

ПЕРАСЯЛЕНЦЫ: ЧАС І ЛЁС

# БЕЛАСТОК — ВЁСКА СІБІРСКАЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зразумела, што не ад добрага жыцця рашыліся некалі нашы продкі, спрадвечныя хлеборобы, на перасяленне ў далёкую Сібір. Беззямелле, нізкая ўрадлівасць мясцовых пясчаных глеб не дазвалялі пракарміць вялікія сялянскія сем'і. Многія, пакідаючы родныя хаты, ішлі на заробкі ў суседнія гарады і мястэчкі. Так, адзін з іх -- Аляксандр Іоч пасля смерці бацькі Казіміра ў 1884 годзе паехаў са свайго роднага пасёлка Юцеўцы (размешчаны за дзесяць кіламетраў ад горада Шчучын Гродзенскай вобласці) у губернскі горад Вільно і працаваў там некалькі гадоў пажарным.

Другі -- Іван Ханевіч са старэйшым братам Восіпам падзарабляў тым, што займаўся перавозам грузаў і пасажыраў ад станцыі Парэчча да Гродна. Падобнымі прыработкамі займаліся ў тыя гады многія малазямельныя сяляне Гродзеншчыны, Віленшчыны, Віцебшчыны, але неабходных сродкаў да існавання ўсё роўна не хапала. Дзесяткі сем'яў пакідалі родныя мясціны, ехалі ў Амерыку, Канаду, а з канца XIX стагоддзя і ва ўсходнія раёны Расійскай дзяржавы. Царскі ўрад быў зацікаўлены ў перасяленні сялянства ў Сібір, абяцаў падтрымку, льготы і садзеянне ва ўладкаванні на новым месцы. Так апынуўся сярод іншых і Аляксандр Іоч у 1896 годзе ў Томскай губерні ў якасці хадака-разведчыка. У Перасяленчым упраўленні атрымаў прапанову агледзець адведзеныя пад засяленне ўчасткі тайгі ў Нікалаеўскай воласці Томскага павета, што знаходзіліся за сто вёрст на паўночны захад ад губернскага горада на левабярэжнай частцы Обі.

Што гэта былі за мясціны ў той час, можна даведацца з дакладной запіскі чыноўніка па сялянскіх справах Райскага томскаму губернатару 15 верасня 1896 года: "... что касается участков в Николаевской волости, на которые определяется приблизительно 800 семей, то они стоят в худших условиях по сравнению с другими переселенческими участками как в отношении путей сообщения, так и в отношении приобретения на них хлеба и земледельческих орудий..."

У адносінах шляхоў зносін, у прыватнасці, неабходна сказаць, што для перасяленцаў мела істотную нязручнасць рэчка Шэгарка, даволі мнагаводная: яна аддзяляла іх ад усіх бліжэйшых вёсак старажылаў. Сувязь з імі спынялася амаль у час разліву на паўтара-два месяцы.

Ужо невядома, чым прывабіў Восіпа Ханевіча, яго аднавяскоўцаў Гераніма Мазюка і Восіпа Маркіша, братоў Іоч, Аляксандра і Івана, і яшчэ некалькіх хадакоў з усіх прапанаваных да засялення ўчасткаў кавалак тайгі на беразе рэчкі, які ў дакументах Перасяленчага ўпраўлення лічыўся як Рыбалоўскі перасяленчы ўчастак.

Можа спадабаўся тым, што акрамя векавой тайгі мелася на ім некалькі выгаральных месцаў: менш працы запатрабуецца для раскарчоўкі пад раллю. А можа быць і таму, што там ужо стаялі дзве хаткі пчаляроў суседняй Малчанаўскай воласці: ёсць дзе спыніцца на першы час. Відавочна, спадабалася і глыбокая паўнаводная рэчка, што цякла побач...

Запісаўшы на сябе надзелы зямлі, вярнуліся яны на радзіму па сем'і. Яшчэ і там доўга разам з роднымі ўзважвалі ўсе плюсы і мінусы такіх сур'ёзных намераў. Нарэшце, рашыўшыся, на наступны год вясной, атрымаўшы перасяленчыя пасведчанні і пад'ёмныя, распрадаўшы вялікія рэчы і развітаўшыся з аднавяскоўцамі і сваякамі, кранулiся ў дарогу.

Да Томска ехалі чыгункай у таварных вагонах разам з жывёлай і правіянтам для яе, начыннем і сялянскімі прыладамі працы (на сям'ю выдзялялі па адному вагону-таварняку). Ад Томска да вёскі Малчанава, дзе знаходзіўся адзін з перасяленчых пунктаў, плылі на параходзе па вялікай сібірскай рацэ Обі, а там ужо сваім ходам праз таёжныя ўрманы і балоты да месца пражывання... Так на карце Томскай губерні з'явіўся ў 1899 годзе яшчэ адзін новы перасяленчы пасёлак Нова-Рыбалаўскі з 13 сямей.

Цяжка абжываліся на новым месцы землякі-першапраходцы: страшыла суровая сібірская прырода з яе неміласэрным таёжным гнюсам летам і небывалымі маразамі зімой, ад якіх не ратавалі самаробныя накамарнікі і наспех выкапаныя паўзямлянкі. Не быў рэдкасцю падзеж жывёлы ад бяскорміцы і нападу дзікіх жывёл (зусім побач з пасёлкам былі вы[illegible]ены дзве бярлогі мядзвед[illegible]іблі ад голаду дзеці, памірал[illegible]д дызентэрыі і прастуд,.. а яшчэ была знясільваючая праца ад зары да зары на раскарчоўцы тайгі пад раллю. Кожны кавалачак быў паліты слязамі і потам. Аднак праца была не ў ця[illegible] Гэта не была праца прыго[illegible]а ці раба: кожны працаваў на сваёй зямлі і ведаў, што дабрабыт яго сям'і з сённяшняга дня і далей будзе залежаць толькі ад яго самога, а не ад "паноў" і дзяржаўных чыноўнікаў.

Варта сказаць, што дапамога дзяржавы перасяленцам у Сібір была ўсё ж немалая. Хадакі атрымлівалі бясплатныя праходныя пасведчанні за праезд да месцаў будучага засялення, сем'і перасяленцаў мелі льготны тарыф на перавоз багажу і свой праезд па чыгунцы. Акрамя таго, кожная перасяленчая сям'я магла атрымаць да ста рублёў беспрацэнтнай пазыкі на домаўладкаванне і пакупку сельгасінвентару. Апрача льгот і пазыкі дзяржава траціла значныя сродкі на будаўніцтва для перасяленцаў хлебазапасных магазінаў і пунктаў па продажу сельгасінвентару, будаўніцтва фельчарскіх пунктаў, школ, цэркваў, мастоў і дарог, капанне калодзежаў.

Так, толькі на масты і пракладку гаці ранейуказаных перасяленчых участкаў Нікалаеўскай воласці і будаўніцтва паромнай пераправы праз рэчку Шэгарку томскі губернатар запрасіў у Перасяленчым упраўленні Міністэрства ўнутраных спраў на 1899 год дзесяць тысяч рублёў. Крыху пазней намечаныя работы па пракладцы дарогі былі выканаы і засыпаныя гаці сталі часткай славутага Нарымскага тракту. У пасёлку Крывашэінскім у гэты год быў адкрыты хлебны склад-магазін, з якога перасяленцам на насенне і прыкорм да новага ўраджаю было прададзена ў 1899 годзе 4 500 пудоў збожжа і мукі. З іх 284 пуды набылі заснавальнікі пасёлка Нова-Рыбалаўскага. У наступным 1900 годзе ў іх быў ужо ўласны хлеб...

І ўсё ж, гаворачы аб дапамозе царскага ўрада перасяленцам у час стальпінскай рэформы, не варта яе перабольшваць. З-за недахопу грашовых сродкаў перасяленцы атрымлівалі дапамогу ў значна меншым памеры, чым гэта аб'яўлялася афіцыйна. Напрыклад, 27 працэнтаў хадакоў маглі ўзяць пазыку для праезду да месца пасялення. Цэны ж на прадукты харчавання, інвентар, жывёлу рэзка ўзраслі з-за павелічэння попыту на іх. Карова стала каштаваць 40 рублёў, конь -- 70, плуг -- да 30 рублёў.

Перасяленчыя ўпраўленні не спраўляліся са стыхійным патокам перасяленцаў і хадакоў. Так, з 1894 па 1899 год у Томскую губерню прыехала з Беларусі 43 тысячы чалавек, а ў наступнае пяцігоддзе ўжо больш 48 тысяч чалавек. У 1907 годзе, перыяд найбольшага размаху зямельнай рэформы прэм'ера П. Стальпіна, толькі за год у губерню прыбыло 30 тысяч перасяленцаў.

Кіраўнік Томскага перасяленчага падраёна Міхайлаў у 1907 годзе дакладваў: "... настрой прыбываючых хадакоў і сямейных перасяленцаў надзвычай павышаны, што выяўляецца неаднаразова ў адкрытым ганьбаванні дзеянняў уладаў і настойлівым патрабаванні лепшай зямлі, агульнага забеспячэння, бясплатных білетаў для праезду і выдачы дарожных пазык. Масавы размах набыў самазахоп зямлі".

Не ўсіх перасяленцаў здавальнялі такі падыход уладаў да іх патрэб, ды і многія на месцы пераконваліся, што Сібір не па іх сілах і празмерна цяжкая для пражывання. І як вынік гэтага -- не меншы паток тых, хто вяртаўся назад у Беларусь. Напрыклад, у 1901 годзе з Сібіры вярнулася назад больш за 5 тысяч сямей. Тады толькі чацвёртая частка хадакоў засталася ў Сібіры. У 1907 годзе з пераселеных на жыхарства ў Томскую губерню 800 сямей у той жа год вярнулася назад. Улады на гэта глядзелі спакойна і цвяроза, папярэджваючы жадаючых перасяліцца ў Сібір у часопісе "Сибирское переселение" аб тым, што ў Сібіры гаспадарыць значна цяжэй, чым у Еўрапейскай Расіі і што "дрэнная гаспадара Сібір не перарабіць у добрага".

Як відаць, не застрашылі большасць нашых землякоў сібірскія маразы, таёжнае звяр'ё і цяжкая праца на зямлі: вытрымалі, уладкаваліся, прыжыліся. Замест зямлянак і хацін з часам пабудавалі моцныя сібірскія пяцісценкі, свірны і сушні, выкапалі калодзежы з высокімі "жураўлямі", агарадзілі пасёлак. Год ад году паселішча папаўнялася жыхарамі. Пабудаваны ў 1908 годзе касцёл яшчэ больш прыцягваў у гэтыя мясціны перасяленцаў-католікаў. Калі вясной 1914 года ў вёску на жыхарства прыехалі адразу некалькі сямей з-пад Магілёва, дарэчы, адны з апошніх добраахвотных перасяленцаў у гэты край, то сяліцца ім у межах пасёлка ўжо не было куды -- давялося уладкоўвацца на другім беразе даволі вялікага па вясковых мерках возера-сажалкі, празванага жартам Байкалам. Так з таго часу жыхароў гэтага паселішча з 18 дамоў сталі ў вёсцы называць "забайкальцамі". Змяніў сваю назву і сам пасёлак. На вясковым сходзе вырашана было назваць яго Беластокам у памяць аб месцах свайго ранейшага пражывання і сваёй маладосці і каб іх нашчадкі ведалі, адкуль родам іх бацькі і дзяды...

Пра тое, чаго дабіліся нашы землякі за паўтара дзесятка гадоў гаспадарання ў Сібіры, могуць сведчыць даныя Усерасійскага сельскагаспадарчага перапісу, зробленага ў пасёлку ў канцы 1916 года. Так, паводле даных перапісу, у пасёлку значылася 95 [illegible]янскіх самастойных гаспад[illegible]і пражывала 516 чалавек, пад раллёй знаходзілася 285 дзесяцін апрацаванай зямлі. Ва ўсіх гаспадарках налічвалася 267 коней і 37 галоў буйной рагатай жывёлы. Зразумела, што 1916 год быў далёка не лепшым [illegible] паказчыках для Расіі: ішла [illegible], многія мужчыны былі на фронце, гаспадаркі прыходзілі ў заняпад.

Але думаецца, што і ў перадваенныя гады паказчыкі ў пасёлку былі не намнога вышэйшыя. У параўнанні са старажыламі-сялянамі нашы ўраджэнцы былі проста галадранцамі. Невялікае багацце -- 3-4 дзесяціны раллі на сям'ю з 7--10 чалавек, два кані ў стайні ды тры караўкі ў хляве... Але менавіта яны і такія, як яны, накармілі перад вайной Расію, масла ад іх сібірскіх каровак стала папулярным у Еўропе. Аратыя ж, па сутнасці толькі стаўшы на ногі, марылі пра большае і несумненна дабіліся б свайго, ды не пашанцавала: першая імперыялістычная вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна. Новыя часы са сваімі новымі законамі...

Ксёндз Мікалай Міхасёнак належаў да тых нямногіх каталіцкіх святароў, якія жылі ў Сібіры ў гады пачатку "вялікага эксперымента" ў Расіі, неад'емнай рысай якога быў ваяўнічы атэізм. Свяшчэннікі сталі першымі яго ахвярамі...

Нарадзіўся ён у сям'і беларускага селяніна на Віцебшчыне, сам быў хлебаробам. Аднак зямля не цягнула, хацелася вучыцца, служыць людзям і Богу. У 1911 годзе Мікалай ва ўзросце 23 гадоў прыняў сан свяшчэнніка. У пачатку 1913 года пасля заканчэння Санкт-Пецярбургскай духоўнай семінарыі прыехаў у Сібір. Па накіраванню Магілёўскай епархіі атрымаў пасаду настаяцеля Беластоцка-Малічэўскай каталіцкай абшчыны, месцам пражывання выбраў вёску Беласток. Вось так стаў ён на 9 гадоў жыхаром гэтай вёскі ў Сібіры.

Хрысціў дзяцей, праводзіў набажэнствы, вянчаў маладых, прычашчаў і спавядаў... Прадстаўнікі Савецкай улады ненавідзелі яго як чалавека "старога" свету і служыцеля культу. У 1923 годзе, не вытрымаўшы правакацый з боку волвыканкомаўскіх работнікаў і пазбавіўшыся касцельнага дома, рэквізаванага пад школу, ксёндз Міхасёнак пакінуў Беласток. Пра яго далейшы лёс многія гады нічога не было вядома, і толькі знаёмства з архіўна-следчай "справай", заведзенай на яго ў 1927 годзе органамі АДПУ Новасібірска, дазволіла прасачыць яго далейшы жыццёвы шлях.

У Новасібірск ксёндз Міхасёнак прыехаў у 1925 годзе з Томска па запрашэнню мясцовай рымска-каталіцкай абшчыны для правядзення рэлігійных службаў у пустуючым гарадскім касцёле. Аднак нядоўгай была радасць прыхаджан. 4 красавіка 1927 года ксяндза арыштавалі.

Асноўны пералік яго "злачынстваў" быў змешчаны ў так званым мемарандуме матэрыялаў, у якім указвалася, што ксёндз Міхасёнак неаднаразова ў час правядзення рэлігійных абрадаў у касцёлах Томска і Новасібірска нібыта казаў прапаведзі антысавецкага характару. Другім пунктам прад'яўленага абвінавачвання было тое, што Міхасёнак нібыта яшчэ ў 1924 годзе спрабаваў збегчы ў Польшчу пад чужымі дакументамі, але дакументаў не дастаў.

У гэтых напрамках і сталі "раскручваць" справу ксяндза Міхасёнка следчыя Новасібірскага АДПУ Бялецкі, Багародзіцкі і іншыя, аднак ксёндз усе прад'яўленыя абвінавачванні адхіляў. Не дабіўшыся патрэбных паказанняў ад самога ксяндза, следчыя сталі "апрацоўваць" сведкаў, але і тыя не давалі супраць яго жаданых паказанняў.

Пасля допыту некалькіх чалавек у якасці сведкаў 27 мая 1927 года памочнік начальніка контрразведвальнага аддзела АДПУ па Сібірскаму краю Бебракарла палічыў, што справа следствам дастаткова высветлена, сведкі і абвінавачаны дапытаны, і прад'явіў ксяндзу абвінавачванне па двух "контррэвалюцыйных" артыкулах прынятага ўсяго год назад крымінальнага кодэкса РСФСР са славутым 58 артыкулам: 58-14 (антысавецкая агітацыя з выкарыстаннем рэлігійных забабонаў мас) і 58-18 (дыскрэдытацыя Савецкай улады шляхам распаўсюджвання пра яе лжывых чутак).

Сібірскія чэкісты выслалі справу на Міхасёнка ў Маскву. Асобая нарада 25 лістапада 1927 года вынесла рашэнне --адправіць Міхасёнка Мікалая Іванавіча ў канцлагер на тры гады без прымянення да яго амністыі. Для адбыцця пакарання яго накіравалі ў сумна славутыя Салавецкія лагеры асобага прызначэння. Пасля адбыцця тэрміну зняволення па пастанове ўсё той жа Асобай нарады ад 28 красавіка 1930 года ён быў накіраваны ў ссылку ў Паўночны край яшчэ на тры гады.

Што потым стала з ксяндзом і тысячамі нашых землякоў? У справах на іх дакументаў няма, але няцяжка і без іх здагадацца: надыходзілі часы яшчэ больш жорсткія, калі дзесяткам і сотням тысяч нашых землякоў месца на гэтым свеце было прадастаўлена толькі за калючым дротам...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**



У канцы мінулага года Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску паказаў прэм'еру спектакля па п'есе Алехандра Касоны "Дрэвы паміраюць стоячы". Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Юрый Лізенгевіч, мастак Андрэй Пронін, кампазітар Уладзімір Кандрусевіч.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. У ролі Маўрысіо -- Генадзь ШКУРАТАЎ, у ролі Марты-Ісабель Галіна БУКАЦІНА.

Фото Аляксандра ХІТРОВА.

# ТВОРЧАСЦЬ КАМПАЗІТАРА І ПАКУТЫ АДМІНІСТРАТАРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І ўсе тры оперы, якія я напісаў, -- "Джардана Бруна", "Матухна Кураж" і "Візіт дамы" -- пастаўлены. Праўда, "Матухна Кураж" ішла ў іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза і не ішла ў Мінску. Мы ваявалі ў Афганістане, і былы аддзел культуры ЦК лічыў, што гэта антываенны твор і ён будзе стварaць не той, што трэба, настрой.

*-- Ці можна лічыць вашы оперы беларускімі?... Усе тры напісаны не на нацыянальным матэрыяле.*

-- А можна, я вам задам пытанне? Скажыце, дзе адбываецца дзеянне ў "Рамэо і Джульеце"? У "Атэла"? "Аідзе"? Усё гэта не Англія, але вы ніколі не скажаце, што Шэкспір не пісаў англійскіх п'ес або што "Гамлет" -- гэта дацкая п'еса. Драматург перасягнуў межы той краіны, дзе ён жыў. Я не параўноўваю сябе з Шэкспірам, але хачу сказаць, што вечныя тэмы і ідэі, якія хвалююць чалавецтва, не маюць межаў. Дзеянне можа адбывацца на Марсе, і ў той жа час гэта будзе наша з вамі жыццё.

Ствараючы оперу "Візіт дамы", я думаў пра тое што мы зараз перажываем. П'еса швейцарскага драматурга Фрыдрыха Дзюрэнмата напісана 40 гадоў назад і доўга ішла ў маскоўскіх тэатрах. Ідэя яе блізкая да нашай рэчаіснасці. ...У правінцыйны гарадок вяртаецца дачка мясцовага муляра, якая стала мільянеркай. Яна збіраецца ажыццявіць правасуддзе і адпомсціць мясцоваму лавачніку, паважанаму ў горадзе чалавеку, свайму "першаму каханню", які не калі кінуў яе цяжарнай. Неабмежаваная ўлада, якую даюць грошы, дазваляе старой даме купіць горад і разбэсціць яго жыхароў...

Вечныя тэмы заўсёды актуальныя і найлепш даюць магчымасць кампазітару выказаць сябе. Вядома, можна было б пісаць оперы лакальныя, гістарычныя. Існуе вялізны, амаль не кранутты пласт беларускай гісторыі. Мусіць, каб ведаў, што мне яшчэ адпушчана дастаткова гадоў жыцця, я б таксама ўзяўся і раскрыў нейкі пласт, які быў бы сугучны нам, бо вельмі важна, каб глядач суперажываў. На пастаноўцы маёй апошняй оперы з задавальненнем назіраю, як людзі суперажываюць, бо ім блізкія маральныя, духоўныя праблемы, пра якія ідзе гаворка ў творы.

*-- З гэтымі праблемамі, напэўна, і вы, Сяргей Альбертавіч, сутыкаецеся пастаянна як дырэктар тэатра?*

-- Вядома! Штодзённа! Мы перажываем надзвычай цяжкі момант. Мяркуйце самі: у артыстаў жабрацкая заработная плата, у сярэднім 400 тысяч рублёў у месяц. Надзею на лепшае дае тое, што тэатр павінен стаць "прэзідэнцкім". Зразумейце такую простую рэч: пэўныя схільнасці трэба мець да ўсяго, але ўсё ж слесарам можа стаць амаль кожны чалавек. Далёка не кожны, як бы ён ні стараўся, зможа стаць оперным спеваком. Голас -- гэта дар ад Бога, гэта здабытак краіны, і мы абавязаны яго берагчы. Таленты, вялікія таленты, засяроджаны ў нашым тэатры. Гэта багацце трэба ашчаджаць.

*-- А вас разумеюць улады, людзі, ад якіх залежыць дзейнасць тэатра і дабрабыт тых, хто ў ім працуе?*

-- Я спадзяюся, што пачынаюць разумець. Існуе чыноўніцкая структура са страшнай назвай "Дзяржкампраца", для якой майстар сцэны і майстар-палівальшчык кветак -- адна і тая ж катэгорыя. А такога быць не павінна, бо існуюць пэўныя крытэрыі, неабходныя, каб стаць майстрам сцэны, а ў майстра ёсць даныя, якія ўсе мы павінны берагаць.

Шмат таленавітай моладзі заканчвае зараз кансерваторыю, але даўно пала "жалезная заслона", і людзі маюць магчымасць выбіраць паміж Усходам і Захадам. З Захаду ўвесь час соваюць рукі ў наш кашалёк з даравannямі. Пакуль што гэта толькі выезды на месяц, два, тры. Часам чалавек сам гаворыць: "Я еду з ансамблем, буду співаць там песенькі, бо ў мяне двое дзяцей, і мне сорамна глядзець ім у вочы. Паеду, каб нешта зарабіць".

Нам гадамі паўтаралі: "Мастацтва належыць народу". Лозунг гэты і прывёў да таго, што мы сёння маем у мастацтве. Тое, што табе належыць, можна і не берагчы. На Захадзе нават прыхільнікі оперы, балета, сімфоніі ставяцца да гэтых відаў мастацтва з нейкім піетэтам, бо гэта -- вышэй за іх. Опернае мастацтва ўжо даказала сваю неўміручасць, існуючы стагоддзямі. А ў нас, пачынаючы з 60-х гадоў, адчуваецца нейкі асаблівы ўхіл у бок эстрады. Эстрада набыла амаль дзяржаўны статус, пачала прыслужваць дзяржаве.

*-- Вы спадзяецеся, што "прэзідэнцкае праўленне" прынясе тэатру карысць?*

-- Я змагаўся за гэта. Тэатр павінен быць па-за катэгорыяй, яго трэба выцягнуць з лапаў чыноўнікаў, якія займаюцца ўраўнілаўкай усяго. Яны не могуць зразумець, што тэатр -- гэта брыльянт, дыядэма культуры.

*-- А ці не здарыцца так, што, выцягваючы тэатр з лапаў чыноўнікаў аднаго рангу, вы трапіце ў іншыя, толькі можа рангам вышэйшыя?*

-- Для мяне кіраванне Прэзідэнцкай адміністрацыі дае магчымасць не мець справы з "Дзяржкампрацы", для тэатра -- магчымасць мець асобыя льготы.

*-- А потым пачнуць дыктаваць і рэпертуар...*

-- Не думаю. І спадзяюся, што так не будзе.

*-- Але хто плаціць...*

-- У оперы такое не праходзіць. Мяркуецца праводзіць тут урачыстыя пасяджэнні, дык яны і зараз праходзяць. І мяне радуе, што Прэзідэнт сказаў: "Тэатр не павінен стаць месцам палітычных дыскусій, а толькі храмам мастацтва". І маё цвёрдае перакананне: у тэатры не патрэбны ніякія зборышчы. Ён апалітычны, няхай служыць толькі мастацтву.

*-- А як вы, Сяргей Альбертавіч, у цэлым ацэньваеце стан беларускай культуры?*

-- Мне здаецца, што ўвогуле ён цяжкі. Дрэнна, што мы страцілі шэраг льгот, дрэнна, што рынак увайшоў у культуру і пачалася яе камерцыялізацыя. Але, з другога боку, такі стан выключае масавы ўваход у культуру, калі ці не галоўным, каб трапіць на сцэну, неабходна была прыхільнасць начальства. А ўвогуле ўсё вельмі складана.

Я не за адраджэнне Савецкага Саюза: нельга ў момант разбурыць тое, што моцна трымаецца, а Саюз распаўся імгненна. Аднак для майго пакалення распад СССР быў вялікай стратай. Мне шкада тыя культурныя сувязі, якія існавалі проста паміж кампазітарамі, мастакамі, спевакамі. І новым пакаленням немагчыма будзе адчуць адзінства, напрыклад, з кампазітарамі Украіны, Казахстана, як гэта было ў нас. Мы былі адной сям'ёй, і гэта варта вярнуць. Часопіс "Савецкая музыка" існаваў для рускіх, беларускіх, літоўскіх кампазітараў. Сёння мы не ведаем, што робіцца ў сяброў, мы не бываем у іншых краінах, няма і часопіса.

Я сказаў, што мы былі як адна сям'я, але заўсёды было адчувальна непрыемна, калі мы выязджалі ў іншыя краіны. Як савецкія кампазітары, мы ніколі не прадстаўлялі нацыянальных культур.

Усё гэта здабыткі і страты. Цешыць толькі тое, што ўсе дзеячы культуры ва ўсім свеце знаходзяць нейкае паразуменне.

*-- А як старшыня таварыства "Радзіма", што думаеце вы, Сяргей Альбертавіч, ці маюць патрэбу беларусы за мяжой у кантактах з зямлёй, адкуль яны родам, дзе жывуць іх продкі?*

-- Адзін мой знаёмы ў Аргенціне расказаў, што калі паміраў яго бацька, то ўсё паўтараў: "Кобрын, Кобрын, Кобрын! Там зямля дзядоўая". І я, казаў знаёмы, нават не ведаю, дзе той Кобрын знаходзіцца.

Таму таварыству "Радзіма" трэба зрабіць так, каб кожны беларус ведаў свае карані, ведаў, адкуль ён пайшоў у свет. Няхай кожны жыве там, дзе ён жыве, але нельга быць чалавекам без Радзімы.

Уладзімір МЯЛЕШКА,
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

НЕЮБІЛЕЙНЫЯ НАТАТКІ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЗАЎЖДЫ БЫЛА ПАЛІТЫКАЙ

Навуковыя рады Скарынаўскага цэнтра і Навукова-тэрміналагічнай камісіі беларускай мовы пры Міністэрстве адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, а таксама рада Міжнароднай арганізацыі беларусістаў правялі сумеснае ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 75-м угодкам ад дня стварэння Навукова-тэрміналагічнай камісіі (НТК) пры Савеце Народных Камісараў БССР 10 лютага 1921 года. У свой час яна згуртавала вакол сябе навукоўцаў усіх вышэйшых навучальных устаноў БССР, якія дапамагалі ёй распрацоўваць новыя навуковыя тэрміны не толькі ў галіне гуманітарных навук, але і па хіміі, фізіцы, матэматыцы, медыцыне, батаніцы і іншых навуках. Крыху пазней НТК працавала ў складзе Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта).

На працягу 1921--1928 гадоў НТК Інбелкульта выдала 24 зборнікі, тэрміны якіх былі нарматыўнымі для ўсіх устаноў і школ БССР. Здавалася, што развіццю беларушчыны спрыяла сама дзяржава. Напрыклад, у 1928 годзе ўхваліў дзейнасць НТК, заслухаўшы яе на секцыі па нацыянальных пытаннях СНК БССР. Але ў канцы 1929 года ўжо пачалі ганьбіць дзейнасць не толькі НТК, але і ўсіх інстытутаў Акадэміі навук (яна была створана ў 1929 годзе на базе Інстытута беларускай культуры). Партыйныя газеты сцвярджалі, што раней вакол Інбелкульта, а пазней вакол Акадэміі навук згуртаваліся буржуазныя нацыяналісты. Беларускую навуковую інтэлігенцыю, якая распрацоўвала навуковую тэрміналогію беларускай мовы з улікам яе асаблівасцяў і ўласцівасцяў, абвінавацілі ў "выхолащивании классовой пролетарской терминологии". Усе супрацоўнікі камісіі і многія з тых, хто супрацоўнічаў з ёю, былі рэпрэсіраваны ў 30-я гады (Язэп Лёсік, Алесь Бурбіс, Максім Гарэцкі, Іосіф Сушынскі і шмат іншых), як нацыянальныя дэмакраты. Урад БССР палічыў іх тады "ворагамі народа". Здавалася, ну якую варожую дзейнасць неслі народу мовазнаўцы, мастацтвазнаўцы, літаратурныя крытыкі, матэматыкі, хімікі. Аказваецца, небяспечнасць была ўжо нават у самім факце імкнення ўзгадніць між сабой навуковыя тэрміны беларускай мовы і тым самым сцвердзіць яе як мову адметную, як мову самабытнага і самастойнага народа. Парадаксальна выглядае, што ўтварэнне БССР спакойна прызнавалася, а самастойнасць беларускай мовы ніяк не хацелі прызнаваць. Вынікае, што існаванне і ўжыванне беларускай мовы заўжды было пытаннем палітычным не толькі ў часы Расійскай імперыі, але і ў часы савецкія.

І сёння ў суверэннай Беларусі да беларускай мовы тыя ж адносіны, асабліва пасля рэферэндуму. Міністэрства адукацыі і навукі спрыяе зменшэнню беларускамоўных класаў, пашырэнню русіфікацыі ў школах і вышэйшых навучальных установах. Вынікі русіфікацыі праявіліся нават у час урачыстага пасяджэння, бо дысанансам самой ідэі пасяджэння -- слаўнаму юбілею менавіта беларускай тэрміналагічнай камісіі -- прагучаў увогуле цікавы, але рускамоўны даклад М. Токарава "Создание и деятельность Научно-терминологической комиссии". Кандыдат гістарычных навук Мікола Токараў зрабіў агляд даследаваных ім архіўных дакументаў рэпрэсіраванай у 30-я гады НТК беларускай мовы і адзначыў плённую і вельмі вялікую па аб'ёму працу яе навукоўцаў, яшчэ патрэбную беларускай дзяржаве ў першае дзесяцігоддзе. Дарэчы будзе прыгадаць, што сучасная НТК -- спадкаемца былой -- утворана толькі ў 1995 годзе, а не ў 1991 пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь, упушчаны спрыяльныя ўмовы для яе дзейнасці. Такім чынам, НТК беларускай мовы не працавала амаль 70 гадоў.

На жаль, урачыстым пасяджэнне назваць не выпадзе. Усё праходзіла вельмі сціпла, як звычайная навуковая рада, але дыскусіі не было, хоць даклады давалі для яе падставу. Удзельнікаў стрымліваў, відаць, юбілейны характар рады...

Выкладчык Белдзяржуніверсітэта В. Красней у дакладзе "Здабыткі тэарэтычнай працы Навукова-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта" даў станоўчую ацэнку вынікам яе дзейнасці. Ён адзначыў, што большасць навукоўцаў той камісіі былі прыхільнікамі ачышчэння беларускай мовы ад замежных запазычанняў не толькі з рускай, але і з лацінскай мовы. А Сяргей Запрудскі дадаў у сваім выступленні, што па гэтаму ж шляху пайшлі ў свой час чэхі. Беларускія навукоўцы тады пераняли вопыт гэтага славянскага народа. Чэшскі вопыт скарысталі і харваты, ствараючы сваю тэрміналогію.

Ацэньваючы працу НТК у 20-я гады, рэцэнзент А. Смоліч пісаў, што такой фундаментальнай працай могуць ганарыцца яе стваральнікі. Дарэчы будзе прыгадаць, што і тады, і цяпер сярод навукоўцаў ідзе спрэчка, па якому прынцыпу распрацоўваць беларускую навуковую тэрміналогію -- набліжаць яе да ўласцівасцяў беларускай мовы з улікам старажытнабеларускай і сучаснай літаратурнай мову ці ўжываць іншаземную тэрміналогію, у тым ліку і рускую. В. Красней, між тым, адзначыў, што ў той кароткі пераходны перыяд, на працягу васьмі гадоў, камісія дала беларускай школе і ўстановам маладой рэспублікі навукова распрацаваную тэрміналогію з улікам выкарыстання не толькі ўжываных і літаратурных моўных скарбаў, але і яе дыялектных асаблівасцяў.

Тэарэтычныя доследы ў 20-х гадах і канкрэтныя прапановы ў галіне беларускай тэрміналогіі павінны стаць базай для дзейнасці сучаснай НТК. Пэўны плён яе дзейнасць мае нават сёння, бо новая НТК будзе працягваць далейшае вывучэнне яе мінулай дзейнасці і праўдзе селета "круглы стол" па праблеме ўдасканалення сучаснай навуковай тэрміналогіі беларускай мовы. У дыскусіях "круглага стала" будуць падсумаваны напрацоўкі сучаснай НТК.

Урачыстае юбілейнае пасяджэнне адбывалася менавіта ў той зале былога Інстытута беларускай культуры, дзе праходзілі ўсе навуковыя рады былой Навукова-тэрміналагічнай камісіі.

У пасяджэннях прынялі ўдзел пісьменнікі Янка Брыль, Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі і іншыя дзеячы навукі і культуры Беларусі. Міністр адукацыі і навукі В. Стражаў даслаў толькі віншавальную тэлеграму.

Мая ЯНІЦКАЯ.

# ГЕРОЙ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ

Вясной 1794 года пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне, на чале якога стаў Тадэвуш Касцюшка. 24 сакавіка 1794 года ў Кракаве быў абнародаваны "Акт паўстання грамадзян, жыхароў Кракаўскага ваяводства", г.зн. маніфест, які заклікаў да паўстання жыхароў з мэтай вызвалення краіны. Касцюшка як кіраўнік паўстання прынёс публічную прысягу. Лозунгам паўстання сталі словы: "Вольнасць, цэласнасць, незалежнасць".

Гэтыя заклікі знайшлі гарачы водгук сярод шырокіх колаў гарадской беднаты і сялянства. 4 красавіка Касцюшку ўдалося атрымаць першую перамогу каля вёскі Рацлавіцы (недалёка ад Кракава) над царскімі войскамі. Рашаючую ролю ў баі адыграў атрад добраахвотнікаў-сялян, узброеных косамі -- касінераў.

Ідэя прыцягнуць сялян да паўстання і ўзброіць іх косамі, асаджанымі вертыкальна на дрэўку, належала Касцюшку. Менавіта ад паўстання 1794 года пачынаецца ў Польшчы і Беларусі гісторыя касінераў -- узброеных косамі сялян, якія адыгрывалі значную ролю ў паўстаннях 1830 і 1863 гадоў.

Маральнае значэнне перамогі пад Рацлавіцамі, першай у паўстанні 1794 года, было вельмі вялікае. Яна выклікала збройныя выступленні ў іншых рэгіёнах Рэчы Паспалітай. 17--18 красавіка пачалося паўстанне ў Варшаве. Варшавяне на чале з Янам Кілінськім і Юзафам Меярам змусілі акупацыйныя войскі пакінуць сталіцу, многія арыстакраты былі адраўлены ў турмы.

22-23 красавіка пачалося паўстанне ў Вільні. Пад кіраўніцтвам Якуба Ясінскага паўстанцы вызвалілі горад ад расійскіх войскаў.

Жадаючы прыцягнуць сялян да паўстання, 7 мая 1794 года ў лагеры каля вёскі Паланец Касцюшка выдаў Паланецкі універсал, накіраваны на паляпшэнне становішча сялян. Ён прадугледжваў прадастаўленне сялянам асабістай свабоды пры ўмове іх разліку з панамі і аплаты дзяржаўных падаткаў, вызваленне ад паншчыны падчас паўстання, правa наследавання зямлі. Нягледзячы на абмежаванасць, універсал быў выдатным прагрэсіўным актам, першым у гісторыі Польшчы абмежаваннем самавольства паноў, першым змяншэннем цяжару паншчыны. Гэта сведчыць, што справу незалежнасці Рэчы Паспалітай Касцюшка звязваў з сялянскімі масамі, найбольш шматлікай сацыяльнай групай грамадства.

Нягледзячы на праяўлены Касцюшкам сапраўдны ваенны талент у кіраўніцтве паўстаннем, нягледзячы на шэраг асобных паспяховых ваенных перамог, паражэнне паўстання было прадвызначана. Перш за ўсё празмернай перавагай сіл ворагаў паўстання -- царскай Расіі, Прусіі і Аўстрыі, а таксама вузкай сацыяльнай праграмай паўстання.



10 кастрычніка 1794 года ў бітве пад Мацяёвіцамі царскія войскі нанеслі паражэнне паўстанцам, а сам Касцюшка, цяжка паранены, быў узяты ў палон. Касцюшка разумеў, што гэта адмоўна паўплывае на ход паўстання і прадвызначыць зыход усёй барацьбы, таму ў той трагічны момант вымавіў сумна вядомую, поўную глыбокага гістарычнага сэнсу фразу: "Finis Poloniae!" ("Канец Польшчы!").

Дзяржавы, якія змагаліся з паўстаннем, разглядалі яго не толькі як нацыянальна-вызваленчы рух, але і як водгалас Вялікай французскай рэвалюцыі ў Цэнтральнай Еўропе, дэмакратычныя і рэспубліканскія ідэі якога неслі страшэнную пагрозу дэспатычным абсалютысцкім рэжымам феадальных краін -- Расіі, Прусіі, Аўстрыі. Тому іх дзеянні супраць паўста[illegible] адзначаліся асобай жорсткасцю.

4 лістапада царскія войскі, якімі камандаваў А. Сувораў, занялі прадмесце Варшавы на правым беразе Віслы -- Прагу. 6 лістапада сталіца паўстанцаў капітулявала. Аўстр[illegible]ая і пруская арміі акупіравалі амаль усю астатнюю тэрыторыю Рэчы Паспалітай. Пасля падаўлення паўстання Рэч Паспалітая была канчаткова падзелена паміж дзяржавамі-пераможцамі. Апошні кароль Рэчы Паспалітай вымушаны быў адрачыся ад трона і дажываў свае апошнія дні ў сталіцы адной з дзяржаў-параможцаў -- Пецярбургу.

Туды ж быў прывезены палонны Касцюшка і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць.. Пасля смерці Кацярыны II у 1796 годзе Павел I вызваліў Касцюшку, а таксама ўсіх зняволеных і сасланых паўстанцаў (усяго каля 12 тысяч чалавек). 19 снежня таго ж года Касцюшка разам са сваім ад'ютантам Юльянам Нямцэвічам праз Стакгольм і Лондан выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі.

## ГАЛОЎНАЯ МЭТА ЖЫЦЦЯ

У 1798 годзе Касцюшка, перакананы дэмакрат і рэспубліканец, пераехаў у Еўропу, у Парыж, каб тут выпрацаваць праграму барацьбы за адраджэнне польскай дзяржаўнасці. Гэта праграма была выкладзена ў напісанай сумесна з бліжэйшым паплечнікам Касцюшкі яго сакратаром Ю. Паўлікоўскім брашуры "Ці могуць палякі заваяваць незалежнасць?" (1800), якая была выдадзена ў Парыжы і прасякнута глыбокай верай у магутныя вызваленчыя сілы польскага народа. Палітычныя ідэі Касцюшкі, выкладзеныя ў гэтай працы, садзейнічалі зараджэнню рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху на польскіх, беларускіх і ўкраінскіх землях у XIX стагоддзі. Гэта праца стала надзвычай папулярнай. Яна шмат разоў перавыдавалася. Яе ўплыў на фарміраванне палітычнай праграмы польскага вызваленчага руху вызначаўся перш за ўсё патрыятычнымі і дэмакратычнымі ідэямі. Яна стала сапраўдным палітычным катэхізісам для наступных пакаленняў змагароў за адраджэнне Рэчы Паспалітай. Палітычны запавет Касцюшкі і яго асоба натхнялі змагароў за адраджэнне польскай дзяржаўнасці на працягу ўсіх 123 гадоў барацьбы, якія прывялі да адраджэння Польшчы 11 лістапада 1918 года. Заканамерна, што Касцюшка -- самы вялікі герой польскай гісторыі.

Памёр Касцюшка 15 кастрычніка 1817 года ў Швейцарыі ў Салоры (каля горада Золатурна), дзе ён і быў пахаваны. У 1818 годзе астанкі Касцюшкі былі перавезены ў Польшчу і ўрачыста пахаваны ў старажытным каралеўскім замку Вавель. Смерць Касцюшкі выклікала шырокі водгук у свеце. У Злучаных Штатах Амерыкі, выступаючы ў Кангрэсе, Вільям Гарысан сказаў прарочыя словы: "Пакуль на алтар Свабоды яе абаронцы будуць ахвяраваць свае жыцці, імя Касцюшкі будзе жыць сярод нас".

## ПАМЯЦЬ НА КАНТЫНЕНТАХ

У многіх краінах Амерыкі і Еўропы імя Касцюшкі карыстаецца глыбокай павагай. Яму прысвечаны многія творы мастацкай літаратуры, жывапісу, скульптуры, напісаны многія сотні навуковых прац.

Напрыклад, у Злучаных Штатах помнікі Касцюшку ўстаноўлены ў Вашынгтоне, Чыкага, Мілуокі, Кліўлендзе. У Вест-Поінт ёсць Ваенная акадэмія імя Тадэвуша Касцюшкі.

Імем Касцюшкі названа самая высокая гара ў Аўстраліі.

Помнікі, прысвечаныя Касцюшку ў Польшчы, цяжка пералічыць. Асабіста для мяне найбольш дарагім з іх з'яўляецца будынак былой Рыцарскай школы ў Варшаве, дзе калісьці вучыўся Касцюшка і які захаваўся да нашых дзён. Гэты будынак знаходзіцца на тэрыторыі Варшаўскага універсітэта. На другім яго паверсе размяшчаецца адміністрацыя універсітэта, а на першым вядуцца звычайныя акадэмічныя заняткі. У час маёй працы ў Польшчы, а таксама шматлікіх



камандзіровак мне часта даводзілася бываць у гэтым будынку і на[illegible]ытаць лекцыі для польскіх с[illegible]нтаў.

Памяць пра Касцюшку заўсёды жыве і на беларускай зямлі.

## "ПРА ЯГО НАРОД НАШ СПЯВАЕ..."

Яшче пры жыцці Касцюшка стаў сапраўднай жывой легендай і на працягу ўсяго XIX стагоддзя яго рэвалюцыйная дзейнасць і светапогляд служылі не аднаму пакаленню не толькі палякаў, але і беларусаў прыкладам самаахвярнай барацьбы з самадзяржаўем, узорам для выпрацоўкі дэмакратычнага светапогляду, патрыятычнага гераічнага дзеяння.

Асабліва яскрава яго ўплыў адчуваўся на Беларусі ў першай палове XIX стагоддзя, у тым ліку напярэдадні і ў час паўстання 1863 года. Пераканаўчым доказам гэтага з'яўляецца духоўная спадчына Кастуся Каліноўскага, які з вялікай павагай ставіўся да паўстання 1794 года і да яго вялікага кіраўніка. Напрыклад, у 2-м нумары "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскі пісаў, што Касцюшка імкнуўся надаць паўстанню 1794 года дэмакратычны характар, выдаўшы Паланецкі універсал: "Касцюшка то кажа: "Калі мужыкі хочуць ужо самі бараніці сваю зямлю, то няхай жа не служаць паншчыны, дый не плацяць у казну аброку за зямлю". От гэта так справядлівасць!".

Такім чынам, Каліноўскі дае высокую ацэнку універсалу, называючы яго маніфестам, паказвае яго шырокую папулярнасць сярод сялян Беларусі. Лідэр беларускага нацыянальна-вызваленчага руху піша, што маскаль, баючыся, каб Касцюшка не "пабунтаваў" гэтым маніфестам (г. зн. не прыцягнуў да ўдзелу ў паўстанні. -- **В. Ш.**) усіх мужыкоў, "спыніў маніфест Касцюшкі". "Спыніў" у даным выпадку азначае знішчыў, бо вядома, што расійскія ўлады загадвалі ў час паўстання 1794 года знаходзіць і знішчаць Паланецкі універсал.

Прычыны паражэння паўстання Касцюшкі Каліноўскі бачыў у тым, што яно не набыло характару шырокага дэмакратычнага руху, пра што, у прыватнасці, сведчаць наступныя словы з "Мужыцкай праўды": "Для таго-то і пабілі маскале Касцюшку, бо каб мужыкі ўсе разам былі збунтаваліся і ўхапіліся за сякеры, нажы і косы, так бы маскаль мусіў бы прапасці без паўстання і мы навек-векаў ужо быті б вольны".

Паказальна, што ў рэдагаванай праз К. Каліноўскага газеце "Сцяг волі" ён у якасці віньеткі змясціў сімвалы касцюшкаўскага паўстання -- фігуру касінера са сцягам, на якім былі намаляваны гербы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.

Цікава, што Каліноўскі знаў пра Касцюшку не толькі з друкаваных альбо рукапісных прац, але з самых чыстых і глыбокіх крыніц -- народных легендаў і песняў. У "Лістах з-пад шыбеніцы" ён пісаў, што "Касцюшка каля Слоніма радзіўся" і што аб ім "народ наш спявае". Народ наш -- гэта значыць беларускі народ. А народ спявае толькі пра сваіх сапраўдных герояў.

Менавіта такім героем для беларусаў і з'яўляецца Тадэвуш Касцюшка.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук.**

**НА ЗДЫМКАХ: прэзідэнт ЗША Дж. Вашынгтон узнагароджвае Т. КАСЦЮШКУ ордэнам Цынцыната; Т. КАСЦЮШКА ў якабінскім галаўным уборы.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 7—8.**

---

*ЗГАДВАЮЧЫ УЛАШЧЫКА*

# СУСТРЭЧА НА СМОРГАЎСКІМ

Дваццаць першага сакавіка 1985 года, у дзень народзін Францішка Багушэвіча, журналісцкія клопаты прывялі мяне да вядомага беларускага гісторыка Мікалая Улашчыка, які гасцяваў у Мінску ў свае сястры Вольгі на Кахоўскай, 28. Вуліца гэта ідзе паўз кінатэатр "Кіеў". Будынак жа 28 усімі сваімі пад'ездамі заняў месца ў тупіку старой мінскай вуліцы Смаргаўскай, вуліцы, да якой я маю даўнюю цікавасць. Менавіта пра гэтую вуліцу і пачалася ў нас гаворка з Мікалаем Мікалаевічам. Я пацікавіўся, ці ведае ён, чым яна слынная. Калі я сказаў яму, што ў гады свае маладосці па гэтай вуліцы часта ездзіў Янка Купала, калі жыў у Бараўцах, дзе яго маці арандавала фальварак, Улашчык вельмі здзівіўся: "А я і не ведаў..." І тут жа дадаў, дадаў нейк таямніча, нібы адчуў, што мне гэта цікава: "А ці ведаеце вы, што я адзін з тых, хто першы рабіў вандроўку па Купалавых мясцінах?" Я зусім не чакаў, што наша размова завяжацца пра Купалу. Ну але калі ўзбіліся так нечакана на гэтую тэму, то чаму ж не паслухаць яшчэ аднаго сведку Купалавых часоў ды яшчэ на Смаргаўскім тракце, тым самым тракце, па якім ездзілі Луцэвічы ў Бараўцы.

-- Даўно, вельмі даўно тое было, ды так даўно, што шмат чаго і пазабывалася, -- сказаў Улашчык. -- Каб зразумець нашу вандроўку, я мушу вярнуцца ў 1926 год. Я вучыўся тады ва універсітэце. У нашым універсітэце стварылася краязнаўчае таварыства. Старшынёй яго быў рэктар. Краязнаўства ў той час на Беларусі было ў вялікай пашане. Лічылася, што ў нас яно як найлепш наладжана. І вось у 1926 годзе мы зрабілі сваё навуковае падарожжа па Мазыршчыне, Тураўшчыне, Тонежы. Незабыўнае гэта было падарожжа. З яго мы прывезлі пах нашай гісторыі, наслухаліся шмат розных паданняў, легендаў. А ў 1927 годзе мы былі запрошаны на вячэру да Ванды Лявіцкай. Яна жыла з сям'ёй на Правіянцкай вуліцы. Такія вечары тады часта практыкаваліся. Быў на гэтым вечары і Янка Купала з Уладзіславай Францаўнай. Прыйшлі на вячэру і маладзейшыя: Юрашкевіч Іван, студэнты Рыгор і Іна Ластоўскія, Бараноўскі. І мы ўвесь вечар расказвалі пра сваё падарожжа. Найбольш расказвалі пра вандроўку Юзік Бараноўскі. Ён вучыўся на хірурга, умеў цікава апавядаць. Ён так зачараваў усіх сваімі расказамі, што Янка Купала забыўся, што яму трэба а дзесятай гадзіне дадому. Янка Купала меў звычку а дзесятай быць ужо дома. А дзесятай канчаў усе клопаты. А тут забыўся. А на адыходзе падзякаваў і параіў: "Запісвайце ўсё, бо забудзецца...". Вось гэтая сустрэча і навяла на думку прайсціся па Купалавых сцежках. Пра свой намер сказалі Уладзіславе Францаўне. Яна ўхваліла нашу задуму: "Ідзіце, хлопчыкі, ідзіце!" І вось мы ўтраіх: я, Юзік Бараноўскі (я казаў ужо: ён вучыўся на хірурга), Каваленя Алесь, археолаг з-пад Слоніма, выправіліся па Купалавых сцежках. Было гэта позняй восенню. Пайшлі мы праз Весялоўку, перайшлі Свіслач. Далей дарогі не памятаю. Дайшлі да Бяларучаў. У Бяларучах начавалі ў нейкага дзядзькі. З Бяларучаў накіраваліся на Лысую Гару. Надта мне там спадабалася. Вакол узгоркі, узгоркі... А на іх --стромыя лясы. Усё такое дзівоснае, казачнае. Пацікавіліся, ці часта сюды прыходзяць людзі. "А часта. Прыдзе каторы, на гару гляне, пастаць і пойдзе". Былі ў Гайне. Гэта вішнёвы кут.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ТРЫ ЦЮБІКІ ФАРБАЎ І АДЗІН АБЕД



Мінскаму мастацкаму вучылішчу пры Беларускай акадэміі мастацтваў у наступным годзе споўніцца 50 год. Невялікі будынак у цэнтры горада нядаўна быў адрамантаваны, і сёння на свежых, белых сценах вісяць карціны былых выпускнікоў вучылішча, вядомых беларускіх мастакоў, а праз рознакаляровыя фрагменты вітражоў у сонечны дзень на падлогу кладзецца вясёлка, і яе промні робяць на момант ненатуральна прыгожымі ўсіх, хто трапляе ў яе. Дарэчы, паступіць у вычылішча даволі складана. У мінулым годзе конкурс складаў амаль дзесяць чалавек на месца, і гэта нягледзячы на тое, што будучаму вучню патрэбны высокі ўзровень папярэдняй падрыхтоўкі ў мастацкай школе. Аднак вучылішча -- першая прыступка да паступлення ў Акадэмію мастацтваў. І на старэйшых курсах, знаёмячыся з работамі, выкладчыкі акадэміі пачынаюць прыглядацца да будучых абітурыентаў.

У вучылішча моладзь прыходзіць на аддзяленні жывапісу, дызайну, а таксама скульптуры і дрэваапрацоўкі, каб чатыры гады вывучаць гісторыю, мову, літаратуру, гісторыю беларускага і сусветнага мастацтва, а таксама спецыяльныя прадметы. Часам узнікаюць і праблемы: відавочна таленавіты абітурыент з мастацкімі здольнасцямі не можа напісаць дыктоўку ці здаць вусны экзамен, і такі самародак можа апынуцца па-за сценамі вучылішча. Але ж гэта не прафесійна-тэхнічнае вучылішча, і, здаецца, прымаць сюды трэба па нейкіх іншых адзнаках.

У вучылішчы няма свайго інтэрната, і таму сюды вельмі цяжка прымаць дзяцей з іншых гарадоў Беларусі, а таленавітая моладзь жыве не толькі ў Мінску. Канешне, некага ўдаецца ўладкаваць, але ж ім патрэбны добрыя ўмовы жыцця, бо дзеці прыходзяць у вучылішча а дзевятай гадзіне, а пакідаюць яго, калі ўжо цёмна. Трэці год вучылішча ўзначальвае Міхась Басалыга, якому многае ўдалося змяніць да лепшага, можа і тут таксама нешта атрымаецца. У мінулыя часы гэтае вучылішча ведалі ва ўсім былым Саюзе, бо ўстаноў з такім узроўнем падрыхтоўкі было ўсяго некалькі. Па сутнасці, вучылішча мае ўсё неабходнае, каб даваць у сваіх сценах вышэйшую мастацкую адукацыю. Вось толькі каб хто-небудзь даў грошай на фарбы, паперу, пэндзлі... Пры стыпендыі 70 тысяч рублёў адзін цюбік бялілаў (а любы мастак растлумачыць: яны для яго -- галоўны і асноўны матэрыял) каштуе дваццаць тысяч рублёў. Словам, тры цюбікі белай фарбы і адзін абед у сталовай... Вучням, як могуць, дапамагаюць. Па выніках апошняга прагляду лепшаму дастанецца прыз -- выдатны набор фарбаў. Што зробіш, каб стварыць лёгкі няўлоўны вобраз, патрэбны цалкам матэрыяльныя, вельмі канкрэтныя рэчы.

Пасля заканчэння вучобы пэўная частка выпускнікоў ідзе ў Акадэмію мастацтваў удасканальваць майстэрства. Многія займаюцца далей афарміцельствам і дызайнам -- гэта праца дае магчымасць няблага зарабіць. Ёсць і такія, хто ідзе выкладаць [illegible] дзіцячую мастацкую школу [illegible]ыры гады навучання даюц[illegible] [illegible]акую магчымасць.

Да нацыянальнай культуры тут ставяцца з павагай, мову шануюць, і многія выкладчыкі вядуць свае заняткі па-беларуску. Тут можна пачуць аб паралелях паміж творамі [illegible]ойса і Кузьмы Чорнага, давед[illegible], як адзначаюцца нацыянал[illegible]ыя святы і выконваюцца беларускія абрады, убачыць выставу карцін, прысвечаных паўстанню Касцюшкі. Тут сапраўды выхоўваецца нацыянальная мастацкая эліта, непадуладная хуткаплыннай модзе.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**





**НА ЗДЫМКАХ: заняткі з навучэнцамі першага курса аддзялення жывапісу вядзе намеснік дырэктара вучылішча мастак Мікола КУПАВА; працы студэнтаў Наталлі СІЛІК (4 курс) "Сялянка" і Наталлі ЖУК (4 курс) "Нацюрморт".**

**Мікола АЛТУХОЎ**

## БАНАНЫ

**Гронкі адбіраючы старанна**
**І усмешкі дорачы свае,**
**Травяніста-жоўтыя бананы**
**Жвавая дзяўчына прадае.**

**Цяжка прыгажуні сінявокай**
**Без канца цягаць**
**тавар цяжкі,**
**І ў дзяўчыны**
**ружавеюць шчокі,**
**Нібы яблык звонкія бакі.**

**Маці, ідучы дамоў з работы,**
**Клапатліва цягнуцца сюды.**
**Пахнуць морам,**
**джунглямі, спякотай,**
**Тропікамі смачныя плады.**

**Для ўнучат купляюць**
**іх бабулі,**
**Уздыхнуўшы, іх бяруць**
**бацькі,**
**І сялянскай нізкаю цыбулі**
**Выгнуты ў чарзе пакупнікі.**

**Пачак грошай**
**распрамляюць звычна,**
**Лаючыся (гэта не мана!),**
**Бо ўяўляецца астранамічнай**
**І ненатуральнай іх цана.**

**Павагаўшыся хвілінку, міма**
**Хвацкія мужчыны**
**не прайшлі.**
**Адпачыць дзяўчыне**
**немагчыма**
**І перакусіць няма калі.**

**О, бананы!**
**Водар вельмі рэзкі,**
**Пахі у экзотыкі свае.**
**Хрумкаючы яблыкам**
**палескім,**
**Весела яна іх прадае.**

*СПОРТ*

## ВАКОЛ ФУТБОЛА

Зборная Рэспублікі Беларусь пачала падрыхтоўку да адборачных гульняў першынства свету. Нядаўна наша каманда гасцявала ў Турцыі, дзе сустрэласая з гаспадарамі. Лік матча 2:3. І, нягледзячы на паражэнне, беларускія ігракі паказалі добры футбол.

Цяпер у Галандыю накіравалася мінскае "Дынама", касцяк якога і складаюць спартсмены, што ўваходзяць у зборную рэспублікі. Запланавана правесці некалькі сустрэч з мясцовымі клубамі.

Яшчэ аб футболе. Быломy іграку зборнай Беларусі Юрыю Курненіну прапанавана трэніраваць нацыянальную каманду Сірыі.

УЕФА зацвердзіў 24 суддзі, што будуць абслугоўваць фінальны турнір першынства Еўропы ў Англіі. У гэтым ганаровым спісе ёсць прозвішча і мінчаніна Вадзіма Жука.

## ПАЕДУЦЬ У ІТАЛІЮ

Каб заваяваць пуцёўку ў фінал чэмпіянату Еўропы, беларускім тэнісістам Сяргею Васіну і Васілю Кажэру патрэбна было выйграць у каманд Расіі і Чэхіі. З гэтай задачай яны справіліся. Пройгрыш хлопцам з Вялікабрытаніі (1:2) ужо нічога не мяняў. Спаборніцтвы зборных адбыліся ў Мінску.

У гэты час праходзіла адкрытае першынство Расіі, але сярод майстроў малой ракеткі. Мацнейшай тут стала мінчанка Наталля Кастраміна.

# СУСТРЭЧА НА СМОРГАЎСКІМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Некалі ж гайнаўскія вішні вазілі ў Мінск цэлымі вазамі. На Траецкай гары рынак быў. То там і прадавалі. Прадавалі па тры капейкі за гарац. Другім заходам наведалі мы і Астрашыцкі Гарадок. Цікавіліся курганамі, гарадзішчамі. З намі ж быў археолаг. У Астрашыцкім таксама начавалі. Мы хацелі напачатку абхадзіць Купалавы мясціны, абгледзець іх, а пасля і сфатаграфаваць. У мяне быў прыяцель Каліста Пастуховіч. Ён меў фотаапарат. Але зрабіць нам гэтага не ўдалося. Нават Купалу не паспелі расказаць. Нас арыштавалі. Давялося вандраваць па іншых землях і краях.

Вось такую цікавую гісторыйку з такой драматычнай канцоўкай давялося мне пачуць у 1985 годзе на Смаргаўскай вуліцы ў кватэры Улашчыкавай сястры, у якой гасцяваў слынны беларускі гісторык. Гісторыя гэтая, безумоўна ж, проста цікавая і сама па сабе. Але тое, што я пачуў яе ў доме пры колішнім Бараўскім тракце, па якім неаднойчы ездзіў Янка Купала (Смаргаўская вуліца, згадаем, -- гэта частка колішняга Бараўскога шляху) -- пачуў ад чалавека, які адзін з першых на Беларусі прайшоўся па Купалавых сцежках, робіць яе яшчэ больш чуллівай і яскравай. Гэта ж трэба было лёсу пасяліць тут Улашчыкаву сястру, сабраць мяне, разварушанага Бараўцамі, Бараўскім трактам, з Мікалаем Мікалаевічам, каб гэтая гісторыйка так натуральна выплыла з яго душы. Перакананы: калі б наша сустрэча была ў іншым месцы, не на Смаргаўскай вуліцы, наўрад ці мы парушылі б з Мікалаем Мікалаевічам гаворку пра яго вандроўку па Купалавых сцежках. А так вось парушылі, успомнілі, згадалі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак.230. Падпісана да друку 26. 2.1996 г.**